# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЕВІК




№ 26 (644) Год XIII 30 ЧЭРВЕНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### АДДЗЕЛУ 10 ГОД

30-га чэрвеня 1958 года быў арганізаваны гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку. Узначаліў яго журналіст «Нівы» Сакрат Яновіч, а сакратаром і адначасова штатным працаўнікам аддзела быў Кастусь Хлябіч. З таго часу мінула 10 год. 10 год гарадскі аддзел БГКТ разгортвае культурна-асветную працу ў Беластоку.

З першых дзён свайго існавання і па сённяшні дзень актыў яго праяўляе вялікую ахвярнасць у грамадскай дзейнасці. А дзейнасць гэта шматгранная. Адзначаюцца тут гадавіны дзеячаў беларускага руху, гадавіны беларускіх пісьменнікаў, урачыста адзначаюцца дзяржаўныя святы, арганізоўваюцца спатканні беларускай інтэлігенцыі, сходы заслужаных дзеячаў, вечарыны для моладзі. Вялікае выхаваўчае значэнне маюць савецкія фільмы, якія дэманструюцца тут кожную нядзелю. Пры аддзеле існуе курс акардэаністаў. Прывіваецца тут дзецям любоў да музыкі. У памяшканні аддзела заўсёды прыцягваюць увагу фотавыстаўкі з жыцця СССР і БССР.

Сярод членаў праўлення і яго актыву ўзнікаюць высакародныя парывы арганізавання мерапрыемстваў вялікага значэння. Да такога тыпу мерапрыемстваў трэба залічыць намаганні стварэння курсу беларускай мовы для дзяцей нашага актыву, а таксама згуртавання любіцеляў беларускага слова. Заўсёды добра атрымоўваюцца ў аддзеле акадэміі, прысвечаныя Першамаю, 22-му ліпеню, Войску Польскаму, Савецкай Арміі і Кастрычніцкай рэвалюцыі. На гэтыя акадэміі заўсёды аддзел рыхтуе сваімі сіламі або арганізуе прыезд аматараў мастацкай самадзейнасці.

Стала ўжо традыцыяй, што аддзел арганізоўвае кожны год ёлкі для дзяцей сваіх членаў, што ў дзень ёлкі адбываецца адначасова спатканне членаў БГКТ. Гэта ж сама трэба сказаць і пра навагоднія балі, на якія актывісты аддзела заўсёды маюць запэўненае месца.

Да гэтага дадаць яшчэ трэба супольныя паездкі актыву БГКТ на экскурсію ці ў тэарты Варшавы, якія таксама спрыяюць аб'ядноўванню людзей.

За мінулыя дзесяць год змянілася ў аддзеле некалькі праўленняў. Першае праўленне аддзела ўзначальваў Сакрат Яновіч, другое — Язэп Маркоўскі, трэцяе — Лявон Другавец, чацвёртае — Уладзімір Куршэль. Усе яны ўлажылі шмат працы для развіцця дзейнасці БГКТ у Беластоку. Ужо трэці год аддзелам кіруе Кастусь Масальскі. Ён, як ніхто дагэтуль, шмат прысвячае часу гэтай грамадскай працы. У аддзеле многа ёсць людзей, якія на працягу доўгіх год не страцілі сваёй актыўнасці, і ім належацца словы падзякі. Успомнім хаця б некаторых: Васіль Літвінчук, Уладзімір Навіцкі, Рыгор Скарынкевіч, Уладзімір Куршэль, Васіль Баршчэўскі, Зоя Ясінская, Кіра Радзіцкая, Віктар Лаўрэшук, Сцяпан Сілівончук, Анна Амброжэй, Мікола Яроцкі, Хведар Садоўскі і іншыя.

Аб людзях аддзела, якія зараз укладаюць шмат працы для развіцця яго дзейнасці, напішам асобна.

**М. Хмялеўскі**



**НАД РАКОЮ НАРАЎКАЙ.** Фота: Я. Цялушэцкі

Спулдзельні прадукцыйныя не мелі ў нас добрай славы. Арганізаваліся натда хутка і без належнай падрыхтоўкі паразвязваліся яны яшчэ хутчэй, калі перасталася ім гэтага забараняцца. Аднак не ўсе. Многія спулдзельні не гледзячы на неспрыяльную ім атмасферу развіваюцца далей, даючы прыклад добрай гаспадарлівасці і высокага жыццёвага ўзроўню сваіх членаў. Бо калі б запытаць, што менавіта прыцягвае чле-

## ВЫНІКІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

наў спулдзельняў прадукцыйных да супольнай працы, трэба адказаць так: прыклад добрай работы, добрай, салiднай арганізацыі працы, тэхнічнае забеспячэнне і высокая прадуктыўнасць працы сялян-спулдзельцаў.

Спулдзельня прадукцыйная ў Крывой з'яўляецца такім менавіта добрым прыкладам на ўсю ваколіцу. Гаспадарыць яна на 500 гектарах зямлі, налічвае 40 гаспадароў, што складае каля 70 членаў спулдзельні. Гадавыя абароты спулдзельні складаюць аграмадныя сумы ў мільёны злотых. Так для прыкладу: у гэтым годзе прадбачваецца, што расходы спулдзельні асягнуць суму 11 мільёнаў злотых, а даходы — 13 мільёнаў. Розніца паміж расходамі і прыбыткамі 2 мільёны злотых — гэта чысты даход спулдзельні.

Працай спулдзельні кіруе кіраўнік прадукцыі — Ян Алетуровіч, дасканалы спецыяліст па сельскай гаспадарцы. Асноўнай гарантыяй добрых плёнаў лічыць ён перш за ўсё добрае ўгнаенне. Колькасць і якасць угнаення ў спулдзельні пастаянна пабольшваецца. Пабольшылася яна зараз у параўнанні з мінулым годам — больш чым у два разы. У мінулым годзе паказальнік угнаення быў 70 кг НПК на 1 гектар, у гэтым годзе паказальнік гэты асягнуў 180 кілаграмаў НПК. У сувязі з тым прадбачваецца, што плёны ў гэтым годзе будуць значна вышэйшыя, чымсьці ў мінулым.

Істотнай для рэнтабельнасці спулдзельні з'яўляецца таксама структура пасеваў. У Крывой змяняецца яна апошнім часам на больш высокатаварныя культуры. Так, напрыклад, у гэтым годзе ў параўнанні з мінулым зменшыўся пасеў жыта з 60 да 30 гектараў, пабольшыўся тым часам пасеў пшаніцы з 33 да 43 гектараў і ячменю — з 16 да 25 гектараў.

Не менш важнай ад расліннай вытворчасці з'яўляецца жывёлагадоўля. Зараз у спулдзельні 128 штук рагатай жывёлы, да таго члены спулдзельні маюць 68 штук уласных. Прадбачваецца, што на канец года спулдзельня будзе мець 205 штук рагатай жывёлы, пабольшыцца таксама ўласніцкая жывёлагадоўля членаў спулдзельні. Такім чынам Крывая набліжыцца да найвышэйшых у свеце паказальнікаў колькасці рагатай жывёлы на 100 гектараў угоддзяў, перакрочыўшы паказальнік 45 штук на 100 гектараў.

Найбольшым, аднак, прадукцыйным мерапрыемствам спулдзельні з'яўляецца гадоўля курэй — бройлераў. У мінулым годзе спулдзельня выгадавала 167 тысяч штук курэй, у гэтым годзе выгадуе яна 204 тысячы бройлераў. Пункт вырошчвання куранят спулдзельні знаходзіцца ў Зубаве, працуе пры ім пастаянна 22 асобы. Такая вялікая прадукцыя бройлераў патрабуе развязкі шэрагу праблем арганізацыйнага парадку. Хопіць напомніць, што на працягу 10 тыдняў кураняты з'ядаюць 800 000 кілаграмаў корму. Для перавозкі яго, як і для пазнейшай перавозкі курэй, трэба забяспечыць адпаведныя транспартныя сродкі. Гадоўля курэй прыносіць, аднак, спулдзельні вялікі даход. Спулдзельцы падлічылі, што кожнае вырашчанае кураня дае ім 5 злотых чыстага даходу. Лёгка падлічыць, што з 200 тысяч куранят атрымаецца мільён злотых даходу.

Добрая, высокапрадуктыўная гаспадарка патрабуе, аднак, адпаведнага тэхнічнага забеспячэння. У Крывой аб якасці гэтага забеспячэння сведчыць можа аж 9 трактараў, якімі дыспануе спулдзельня, грузавік «Стар», «Жук» і мноства іншых машын ды механічных прылад працы.

Расце багацце спулдзельні і расце багацце паасобных яе членаў. Каб у гэтым пераканацца, хопіць прайсціся вуліцаю Крывой, ды паглядзець на абшырныя мураваныя хаты. Не хаты, а дачы, як кажуць у горадзе. Жывуць у іх перш за ўсё члены спулдзельні, піянеры «добрай работы» на ўсю ваколіцу.

**Ул. Паўлючук**

### УКАЗАННІ ЭКЗЕКУТЫВЫ ВК ПАРП

У лістападзе і снежні г. г. будзем урачыста адзначаць 50-тую гадавіну стварэння Камуністычнай партыі Польшчы, 25-тую гадавіну абнародавання Праграмнай дэкларацыі Польскай рабочай партыі, а таксама 20-цігоддзе стварэння Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

У сувязі з гэтым Экзекутыва ВК ПАРП у Беластоку днямі выдала ўказанні аб святкаванні гэтых знамянальных гадавін у Беластоцкім ваяводстве. Святкаванне гадавін будзе спалучана з перадз'ездаўскай кампаніяй і V з'ездам ПАРП. І так, у верасні, кастрычніку і лістападзе ў вёсках і ў прадпрыемствах адбудуцца даклады на тэму «Роля КПП у гісторыі польскага рабочага руху» і «Гістарычнае значэнне аб'яднання польскага рабочага руху». У лістападзе і снежні адбудуцца сустрэчы моладзі з дзеячамі КПП, ПАРП і ўдзельнікамі Аб'яднаўчага кангрэса. Ва ўсіх школах адбудуцца вечарыны, прысвечаныя барацьбе КПП за народную ўладу. Вечарыны будуць наладжваць таксама гурткі ЗМВ і ЗМС, святліцы і клубы «Рух». Бібліятэкі наладзяць выстаўкі кніжак аб КПП і правядуць чытальніцкія конкурсы. Школьнікі адведаюць былых дзеячаў КПП і ППР, а таксама іх сем'і. Будзе таксама шмат іншых культурна-асветных мерапрыемстваў.

## ЗНАМЯНАЛЬНЫЯ ГАДАВІНЫ

У кастрычніку і лістападзе ва ўсіх партыйных арганізацыях адбудуцца сходы, прысвечаныя рэвалюцыйным і патрыятычным традыцыям ПАРП. У снежні ў гарадах і вёсках адбудуцца акадэміі, а ў сярэдніх школах — папулярна-навуковыя сесіі.

Экзекутыва ВК ПАРП прапануе адну з вуліц Беластока назваць імем выдатнага рэвалюцыянера Вацлава Багуцкага.

Ёсць таксама прапанова прысвоіць беларускаму ліцэю ў Бельску імя члена КПЗБ і правадыра «Грамады» Браніслава Тарашкевіча.

З мэтай лепшага азнаямлення грамадства з дзейнасцю КПП на Беласточчыне Музей рэвалюцыйнага руху ў верасні наладзіць выстаўку, прысвечаную гэтай тэме. Гэты музей выдасць таксама каталог «З мінулага Беласточчыны», а ГП БГКТ — працу аб сялянскай забастоўцы ў Райску ў 1932 г.

У сувязі з 40-й гадавінай працэсу 133 Беластоцкае навуковае таварыства апублікуе ў Беластоцкім гадавіку артыкул М. Арэхвы «Аб працэсе 133» і працу Б. Нікіцюка «Забастоўкі лясных рабочых у міжваенным перыядзе». Аддзел прапаганды ВК ПАРП выдрукуе брашуру «БСР Грамада на Беласточчыне».

Святкаванні 50-годдзя КПП і 20-цігоддзя ПАРП закончацца папулярна-навуковай сесіяй, якую наладзіць ВК ПАРП 15 снежня. На гэтай сесіі будуць прачытаны наступныя даклады: «Барацьба за адзінства рабочага класа ў гісторыі польскага рэвалюцыйнага руху», «Арганізацыйнае развіццё і дзейнасць КПП і КПЗБ у беластоцкай акрузе», «Арганізацыйнае развіццё і дзейнасць КПП у ламжынскай акрузе» і «Арганізацыйны стан ППР і ППС перад аб'яднаннем». Апрача гэтага на сесіі будзе прачытана 7 навуковых інфармацый, якія будуць улічваць усе прагрэсіўныя і рэвалюцыйныя рабочыя і сялянскія арганізацыі, якія дзейнічалі на Беласточчыне. Матэрыялы з сесіі будуць апублікаваны аддзельным выданнем.

Пытанням, звязаным з гадавінамі, шырокую ўвагу прысвеціць таксама беластоцкі друк і радыё. (рл)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ | БССР | ПОЛЬШЧА | ВАЯВОДСТВА

### РЭЗАЛЮЦЫЯ АБ ГАРАНТЫЯХ

19 чэрвеня г. г. Савет Бяспекі **дзесяццю** галасамі пры **пяці** ўстрымоўваючыхся прыняў рэзалюцыю СССР, ЗША і Вялікабрытаніі аб гарантыях бяспекі для дзяржаваў не маючых тэрмаядзернай зброі.

Савет Бяспекі пастанавіў, што будзе інтэрвеніяваць неадкладна ў выпадку агрэсіі або тэрмаядзернай пагрозы супраць кожнай з няатамных дзяржаў, якія падпісалі дагавор аб нераспаўсюджанні тэрмаядзернай зброі.

Устрымаліся ад голасу Францыя, Алжыр, Бразілія, Індыя і Пакістан.

### ВЫСТУПЛЕННЕ ДАЯНА

Міністр абароны Ізраіля Мошэ Даян выступіў з прамовай да дэпутатаў парламента. Даян заклікаў, каб «у ніякім выпадку не акцэптаваць пастановы Савета Бяспекі з 22 лістапада 1967 г., якая дамагаецца, каб Ізраіль вярнуўся да граніц з часоў перад 5-тым чэрвеня 1957 года, а нават адрокся старой часткі Ерусаліма». Паводле Даяна, становішча ЗША ў блізкаўсходнім канфлікце мае для Ізраіля «значна большае значэнне, чым пастанова Савета Бяспекі».

### ВІЗІТ НАСЕРА Ў МАСКВУ

Прэзідэнт Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі Г. А. Насер нанясе афіцыяльны візіт у Маскву 4 і 5 ліпеня г. г. Прэзідэнт наведае таксама Югаславію.

Прадстаўнік урада ААР, каментуючы інфармацыі на тэму падрыхтоўкі Ізраіля да новай агрэсіі супраць Іарданіі сказаў: «Не ведаю, ці гэтыя інфармацыі дакладныя, але ацэньваем гэтую справу сур'ёзна і прыймаем сур'ёзна дэкларацыю Даяна і пэўных іншых ізраільскіх ваенных, што лінія спынення агню не з'яўляецца ідэальнай і што можа дайсці да захаплення пэўных новых тэрыторый Іарданіі».

### ПАВЕЛІЧЭННЕ ПАДАТКАЎ

Палата прадстаўнікоў Кангрэса Злучаных Штатаў прыняла 20. VI. 1968 г. 269 галасамі супраць 150 праект закона аб павелічэнні падаткаў на **10 працэнтаў**. Адначасова палата пастанавіла паменшыць выдаткі ў федэральным бюджэце на **6 мільярдаў** долараў. У пятніцу (21. VI.) закон быў зацверджаны Сенатам.

### АБ УЦЁКУ ШЭЙНЫ

Прэзідыум Чэхаславацкага ўрада апублікаваў камюніке аб выніках следства ў справе ўцёку генерала Шэйны ў ЗША. Камюніке сцвярджае між іншым, што ў час следства не атрымана ніякіх доказаў на тое, каб Шэйна быў агентам якой-небудзь варожай разведкі і каб яго ўцёк быў арганізаваны пры дапамозе якой-небудзь з гэтых разведак. Уцёку Шэйны спрыялі паважныя хібы ў Міністэрстве абароны нарадовай, падобна як і тое, што генеральны ваенны пракурор не паінфармаваў у адпаведным часе аб яго злачыннай дзейнасці. У выніку ўцёку Шэйны Чэхаславакія панесла шкоду, таму, што ведаў ён шраг падлягаючых таямніцы фактаў, якія датычылі абароннасці краіны. А. К.

### ЦЭНТРАЛЬНАГА

У другой палове чэрвеня адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. З дакладам **«Аб стане і мерах паляпшэння масава-палітычнай работы ў рэспубліцы»** выступіў сакратар ЦК КП Беларусі **С. Пілатовіч**.

Публікаваны ў друку даклад падзелены на наступныя раздзелы: **«Глыбока растлумачваць эканамічную палітыку партыі, забяспечыць выкананне планаў пяцігодкі», «Змагацца за ідэйную перакананасць кожнага савецкага чалавека», «Удасканальваць сродкі, формы і метады масава-палітычнай работы».**

У спрэчках па дакладу выступілі дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР **Н. Каменская**, першы сакратар ЦК Камсамола Беларусі **Г. Жабіцкі**, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР **Максім Танк**, першы сакратар Шчучынскага райкома КПБ **І. Сільвановіч**.

На пленуме з дакладам **«Аб далейшай спецыялізацыі і павышэнні эканамічнай эфектыўнасці жывёлагадоўлі ў калгасах і саўгасах рэспублікі»** выступіў сакратар ЦК КП Беларусі **У. Міцкевіч**. У спрэчках па дакладу выступілі: першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ **І. Мікуловіч**, першы сакратар Свіслацкага райкома КПБ **А. Апрышчанка**, сакратар Брэсцкага абкома КПБ **Д. Туравец** і інш.

### ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

У сувязі з 50-годдзем савецкай аховы здароўя ў Мінску адбылося ўрачыстае пасяджэнне работнікаў навукова-даследчых і лячэбных медыцынскіх устаноў, прадстаўнікоў партыйных, савецкіх, прафсаюзных арганізацый, шырокай грамадскасці. У пасяджэнні гэтым удзельнічалі: сакратар ЦК КП Беларусі **Ф. Сурганаў**, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР **І. Клімаў**, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР **Р. Кісялёў**, міністр аховы здароўя БССР **М. Саўчанка**.

### СУСТРЭЧА

Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР **І. Клімаў** прыняў саветніка — пасланніка пасольства Рэспублікі Індыі ў СССР, паўнамоцнага міністра **С. Тхана**, а таксама членаў дэлегацыі кіраўніцтва Індыйска-савецкага таварыства па развіццю культурных сувязей на чале з віцэ-прэзідэнтам Індыйска-савецкага культурнага таварыства штата Біхар **Секхарам Гангулі**.

Клімаў пазнаёміў гасцей з дасягненнямі беларускага народа ў развіцці эканомікі і культуры, расказаў аб структуры, функцыях і дзейнасці Вярхоўнага Савета рэспублікі. Госці пабывалі ў знамянальных мясцінах Мінска.

### ОРШЫ

На паўночна-заходняй ускраіне Оршы адкрыта каля 1.300 снарадаў з часоў апошняй вайны, у гэтым месцы быў вялікі артылейскі склад нямецкіх войскаў. (С. Я.)

### ПРАБЛЕМЫ НАВУКІ

На пленуме Варшаўскага камітэта партыі абмяркоўвалася праблема развіцця навуковых даследаў. З прамовай выступіў прэм'ер Юзэф Цыранкевіч. Прамоўца сцвердзіў, што належнае выкарыстанне даследаў навуковых устаноў мае вялікае значэнне для прысцяшэння развіцця краіны. Аднак для гэтага неабходнай з'яўляецца канцэнтрацыя навуковых сіл на найважнейшых адрэзках жыцця. Колькасць навуковых даследаў павінна быць абмежавана на тое, каб у тых, якія праводзяцца, запэўніць дасягненне вынікаў. Ю. Цыранкевіч шмат увагі прысвяціў праблеме прымянення навуковых даследаў, прапануючы для гэтай мэты стварыць адпаведныя калегіяльныя органы.

### МОЛАДЗЬ І САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ БУДАЎНІЦТВА

Беручы слова на Пленарным пасяджэнні Ваяводскага камітэта партыі ў Гданьску, сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Зэнан Клішка ахарактарызаваў асноўныя праблемы моладзі і працы з моладдзю. Прамоўца падкрэсліў, што трэба лепш і паўней перадаваць маладому пакаленню грамадскі вопыт старэйшых. Гісторыя народу з'яўляецца школай яго палітычнай мудрасці. Трэба аднак ведаць, — зазначыў прамоўца, — што ўсё тое, што мы перадаем маладому пакаленню, з'яўляецца фундаментам, на якім будаваць яно будзе паводле ўласных ведаў і ўласнага вопыту. Справа тады ў асноўнай праблеме ўласнага вопыту моладзі, гэта значыць, у актыўным яе ўдзеле ў сацыялістычным будаўніцтве, у працы, у грамадскім і палітычным жыцці. Неабходна павялічваць удзел моладзі ў розных органах самакіравання, яе ўплыў і адказнасць за тыя галіны жыцця, з якімі яна непасрэдна звязана. Пашырэнне ўдзелу моладзі ў вырашэнні розных праблем жыцця, а адначасова пашырэнне яе адказнасці — гэта генеральны напрамак, у якім павінны мы ісці ў вырашэнні праблем ідэйнага выхавання моладзі.

Партыя наша, — заявіў на заканчэнне Зэнан Клішка, — бачыць праблему моладзі ў яе канкрэтнай працы для будучыні айчыны, для далейшага развіцця яе нацыянальнай гаспадаркі і культуры, для паглыблення сацыялістычнай дэмакратыі, для ўмацавання саюзу, дружбы і бяспекі з брацкімі сацыялістычнымі краінамі.

### ДНІ МОРА

Цэнтральныя ўрачыстасці "Дзён мора" ў гэтым годзе супадаюць з 50-годдзем існавання прафсаюза маракоў і партовых. Урачыстасці гэтыя адбыліся перад усім у Шчэціне і Свінаўйсцю, што між іншым выяўляе ранг гэтага раёна, як шторазь важнейшага цэнтра польскай марской гаспадаркі. Сведчыць аб тым хаця б разбудова порта ў Свінауйсцю, дзе ў нядзелю, 23 чэрвеня, была аддадзена ў карыстанне вялікая змеханізаваная база перагрузкі вугалю. (п)

### ПЛЕНУМ

Члены Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, якія 18 чэрвеня сабраліся на пленарнае пасяджэнне, абмеркавалі праблемы экспартнай прадукцыі. Аказваецца, што заданні ў галіне экспартнай прадукцыі сяляне і рабочыя Беластоцкага ваяводства выконваюць паспяхова. У 1966 г. выслалі мы за мяжу на 376 мільёнаў злотых тавару больш, чым планавалася, а план мінулага года быў перавыкананы на 440 мільянаў зл. Да замежных купцоў ідзе ад нас найбольш тавару сялянскага паходжання. На машыны і другія прамысловыя прылады прыпадае 25 прац.

Пленум устанавіў заданні ў гэтай галіне на бліжэйшыя гады. Справа ў тым, каб у 1970 годзе экспартная прадукцыя Беластоцкага ваяводства дасягнула вартасці амаль 2-ух мільярдаў зл.

### ГОСЦІ З ГРОДНА

І зноў маем нагоду, каб адзначыць пабыўку на Беласточчыне гасцей з суседняй Гродзеншчыны. На гэты раз дэлегацыю склалі работнікі партыйных і культурна-асветных устаноў Аляксандра Рашкова — кіраўнік Аддзела прапаганды і адукацыі гаркома КПБ у Гродне, Алег Курыловіч — сакратар райкома КПБ у Бераставіцы, Уладзімір Мацкевіч — сакратар райкома КПБ у Гродне і дацэнт Іван Жураўлёў — навуковы супрацоўнік гродзенскага педінстытута. Цікавіліся яны метадамі палітычнай і асветна-культурнай дзейнасці ў нашым ваяводстве. З гэтай мэтай госці з Гродна наведалі культурна-асветныя ўстановы ў Беластоку, Ломжы і Супрасльскі ліцэй мастацтва.

### СМЕРЦЬ АД МАЛАНКІ

21 чэрвеня над многімі раёнамі Беластоцкага ваяводства пракацілася незвычайна грозная навальніца. Ад маланкі загінула 8 чалавек. Вялікая трагедыя здарылася ў вёсцы Вераб'і ў Беластоцкім павеце. Бура застала на балоце сям'ю Крыгераў: 37-гадовага Эдварда, 39-гадовую яго жонку Матрону і 5-гадовага іх сына Віталька. Усе яны схаваліся ў стог сена. Разам з імі ў гэтым жа стозе схаваліся ад даждку 53-гадовы Ян Красніцкі і 62-гадовы Рыгор Супрон. Маланка ўдарыла ў стог і ўсіх іх забіла. У навальніцу загінуў 14-гадовы Язэп Кардаш з вёскі Пілатоўшчына ў Беластоцкім павеце. Ударыла ў яго, калі ён ехаў матацыклам. На сенажаці ля вёскі Пышутлянка ў Манецкім павеце забіла 68-гадовага Уладзіслава Рошку, калі ён заграбаў сена. У вёсцы Гатнэ ў Аўгустоўскім павеце маланка забіла солтыса Язэпа Падбельскага. У вёсцы Длугалянка параніла 12-гадовага хлапчука Данеля Маркоўскага. Ад маланак у гэты дзень узнікла многа пажараў. Гэтыя трагічныя здарэнні наяўна даказваюць, што нельга абыякава адносіцца да так грознай стыхіі, як маланка. (вр)




**NIEDZIELA, 30.VI.**

8.25 Program dnia. 8.30 ,,Królowie Wołgi'' — reportaż o przemyśle rybnym na Wołdze (Wołgograd). 9.00 TV Kurs Rolniczy: ,,Opłacalność ochrony sadów''. 9.35 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.45 ,,Maskarada'' — film (,,Przygody trzech muszkieterów''). 10.15 PKF. 10.30 Dla dzieci: ,,Sport i zabawa''. 11.10 Dziennik. 11.20 Z cyklu ,,Ciekawe opowieści lotników''. 11.35 ,,Polska leży nad Bałtykiem'' — teleturniej. 12.35 ,,Przemiany''. 13.05 ,,Piórkiem i węglem''. 13.55 ,,Sąd przysięgłych'' — film (,,Bonanza''). 14.45 Teatr Komedii Współczesnej. Z. Bystrzycka: ,,Czy to jest miłość''. 16.00 VI Festiwal Piosenki Polskiej w Opolu (,,Śpiewy i śpiewki'' — Amatorskie Zespoły Związkowe). 17.00 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów lekkoatletycznych o Memoriał Janusza Kusocińskiego. 19.30 Dobranoc. 19.40 Dziennik 20.30 VI Festiwal Piosenki Polskiej w Opolu (koncert laureatów). W przerwie, ok. 21.50 ,,Niedziela Sportowa''.

**PONIEDZIAŁEK, 1.VII.**

17.15 Program dnia. 17.20 Dziennik. 17.25 ,,Medale i detale''. 17.45 ,,Spacerkiem po kinach''. 18.20 ,,Miejsce na wczasach''. 18.45 ,,Eureka''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 IV Festiwal Teatrów Dramatycznych: Al. Gribojedow — ,,Mądremu biada'' — komedia w IV aktach. Przekład — J. Tuwim. (Transm. z Teatru Dramat. w Warszawie). 22.20 ,,Panorama Literacka''. 22.50 Dziennik.

**WTOREK, 2.VII.**

10.00 ,,Błędny ognik i płomień'' — film fab. NRD cz. I. 11.30 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.05 Teleferie: 1. ,,Turniej Żółtej Żyrafy''; 2. ,,Wtorkowe Towarzystwo Nieprzemakalnych''; 3. ,,Znak Zorro'' — film. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 ,,Kino Filmów Amatorskich''. 19.05 ,,7 milionów młodych''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Wiem wszystko'' — teleturniej. 20.35 ,,Lepsza połowa'' — program Red. Młodzieżowej. 21.05 ,,Błędny ognik i płomień'' — film fab. NRD cz. I. 22.35 Dziennik.

**SRODA, 3.VII.**

10.00 ,,Postrzeleniec'' — film fab. węg. 11.30 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 Dla młodych widzów: ,,Skowronek'' — mag. muzyczny (Moskwa). 16.00 ,,Architektura Moskiewskiego Kremla'' — film TV radz. 16.30 Dla młodych widzów: ,,Wakacje z Pfiffem'' — transmisja z ZOO (Berlin). 17.00 Dziennik. 17.05 Dla dzieci: J. Wilkowski — ,,Ula i świat''. 17.30 PKF. 17.40 ,,Nie tylko dla pań''. 18.00 ,,Bryza''. 18.25 TV Kurier Lubelski. 18.40 Wszechnica TV: ,,Zaufaj maszynie'' (,,Człowiek i technika''). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Łączniczki'' — rep. film. 20.35 ,,Gawędy muzyczne prof. S. Śledzińskiego'' (,,Historia muzyki''). 21.05 ,,Światowid''. 21.35 ,,Nocny dyżur'' — film (,,Alfred Hitchcock przedstawia''.) 22.25 Dziennik.

**CZWARTEK, 4.VII.**

10.00 ,,Barbara i Jan'' — film TVP (,,Pierwszy reportaż'' i ,,Główna wygrana''). 10.55 Przerwa. 17.05 Program dnia. 17.10 Dziennik. 17.15 ,,Bilet za fryzjera'' — film TVP (,,Wojna domowa''). 17.45 ,,Telekram''. 17.55 ,,Nowe życie'' — film jug. 18.10 ,,Gorąca linia''. 18.45 ,,Jazz w Filharmonii''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Dzień w Popielnie'' — rep. film. 20.40 ,,Anioł błogosławionej śmierci'' — film fab. CSRS. 22.10 Magazyn Medyczny. 22.40 Dziennik.

**PIĄTEK, 5.VII.**

10.00 ,,Anioł błogosławionej śmierci'' — film fab. CSRS. 11.30 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Teleferie: 1. ,,Związek Zielonego Zeszytu'', 2. ,,Niewidzialna Ręka'', 3. ,,Pamiątkowe Towarzystwo Nieprzemakalnych'', 4. ,,Znak Zorro'' — film. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 ,,Kiedy trzeba podjąć decyzję''. 19.00 ,,Nagłe zastępstwo'' — żart teatralny J. Juzowskiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 IV Festiwal Teatrów Dramatycznych: J. A. Kisielewski — ,,Szalona Julka'' (,,W sieci''). 21.35 ,,10 minut recenzji''. 21.45 ,,Dialogi historyczne''. 22.15 Dziennik.

**SOBOTA, 6.VII.**

10.00 ,,Niefortunny rozwód'' — film fab. USA. 11.25 Przerwa. 17.10 Program dnia. 17.15 Dziennik. 17.20 Program tygodnia. 17.45 ,,W Leningradzkim cyrku'' — film radz. 18.40 ,,Ciśnienie'' — TV rajd reporterski po Ziemi Opolskiej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 ,,Tele-Echo''. 20.50 Film rozrywkowy. 21.50 Dziennik. 22.05 Wiadomości sportowe. 22.15 ,,Niefortunny rozwód'' — film fab. USA.




**Piątek, 28 czerwca**

15.35 Nowości. 15.45 Program dnia. 15.50 Dla uczniów. 16.10 Na muzycznej fali. 16.20 Eksperymentalne budownictwo w kołchozie im. Uryckiego. 16.50 Film animowany dla dzieci. 17.00 ,,5+2''. 17.30 Piłka nożna. ,,Dynamo'' (Kijów) — ,,Spartak'' (Moskwa). 20.00 Sztafeta nowości. 21.00 Międzynarodowe zawody dżudo. 21.30 Na dobranoc.

**Sobota, 29 czerwca**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 ,,Urodziny''. 8.30 Film animowany dla dzieci. 9.00 Nasza poczta. 9.30 Szkatułka muzyczna. 9.40 Ekran i czas. 11.00 Rezerwy pracy. 12.25 Kurier wiejski. 12.45 ,,Śmierć oszusta''. Film. 14.30 TV barwna. 17.00 Bal młodzieżowy. 18.30 ,,Czas''. 19.00 ,,Moskwa — Budapeszt''. 20.00 Tydzień błękitnego ekranu. 20.15 Klub przyjaciół piosenki. 21.15 Dziennik.

**Niedziela, 30 czerwca**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.15 ,,Budzik''. 7.45 Dziennik. 8.10 ,,Ojciec i syn''. 9.00 Finał TV olimpiad młodzieżowych. 10.30 ,,Zdrowie''. 11.10 Film kukiełkowy dla dzieci. 11.20 Almanach muzyczny. 12.10 Turniej TV. 12.45 Kiosk muzyczny. 13.15 Atlas TV narodów ZSRR (Ukraina). 14.15 TV barwna. 15.45 Bal maturalny. 16.30 Wszechzwiązkowy TV wiec młodzieży radzieckiej. 17.55 ,,Czas próby''. Film. 19.30 Siedem dni. 20.00 ,,Złoty Orfeusz''. Międzynarodowy konkurs piosenkarski. Transmisja z Bułgarii. 21.30 Tylko fakty.

**Карэспандэнцыя з Гродна**

# Імя Янкі Купалы



Ёсць у Гродне вуліца імя Элізы Ажэшка. Яна амаль самая доўгая ў горадзе. Ідзе ад вакзала аж да цэнтра. Шырокая, зялёная, з вечнай каменнай маставой. Кожны год на ёй прыбаўляюцца новыя збудаванні. Маленькія хаткі (мусіць, то былі магазінчыкі ўласнікаў у прошлым) уступілі сваё месца вялізным жылым дамам з рознакаляровымі балконамі ад вуліцы.

Але больш іншых вабіць погляд людзей будынак, што стаіць непадалёку ад дома афіцэраў, якраз насупроць Ленінскай вуліцы. Прыбудован да старога дома, жартуючы кажуць: фрэнч прышыты да гузіка, бо прыбудынак у 4 разы большы за першы корпус. Шырокія і высокія вокны, здаецца сцен зусім і няма. Над ступенямі вялізны казырок.

Усім яна падабаецца, гэта новая забудова. А многім застанецца ў памяці на ўсё жыццё, тым, хто, атрымаўшы дыплом настаўніка, паедзе сеяць добрае, вечнае сярод нашай юнай змены.

Гэта Гродзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут, якому дзесяць гадоў таму назад прысвоена імя старэйшага беларускага паэта Янкі Купалы, трагічна загінуўшага ў 1942 годзе.

Вельмі цікава пастаяць каля гэтага дома, калі з яго вялізных і светлых пакояў выходзяць будучыя педагогі. Я добра ведаю, што з 1 750 чалавек дзённага аддзялення 85 працэнтаў складаюць дзеці з вёсак. А паспрабуй адгадай, хто з сяла, хто з горада. Усе адзінакава прыгожа і модна апрануты, а дзяўчаты з такімі начосамі, што нават сталічныя модніцы пазайздросцяць.

Усе маладыя, жыццерадасныя. Такімі заўсёды былі тут студэнты. І ў саракавым, калі толькі пачаў працаваць інстытут і калі ў ім было зусім мала юнакоў і дзяўчат — 360, і ў сорак чацвёртым, калі ён зноў пасля вайны адкрыў свае дзверы для ўсіх, але моладзі было яшчэ мала, і цяпер, калі разам з завочнікамі тут больш трох з палавай тысяч студэнтаў. Не адгадаеш, хто будзе выкладаць гісторыю, хто рускую мову і літаратуру, хто беларускую, хто матэматыку або фізіку... Але мы ведаем, што сярод іх ёсць усе тыя, хто патрэбен школе. У інстытуце цяпер факультэтаў і аддзяленняў не злічыць, мусіць, больш дзесяці, тут 17 кафедр.

Здаецца яшчэ, што пітомцы гэтага інстытута ўсе і заўжды былі вось такімі маладымі. Здаецца... На самай жа справе першыя інстытуцкія выпускнікі ўжо даўно сталі заслужанымі настаўнікамі, ардэнаносцамі, кандыдатамі навук, дактарамі, бацькамі сямействаў, а то і дзядамі. Як ні як, сем з паловай тысяч юнакоў і дзяўчат скончылі інстытут. Мусіць, няма такога дома ў Гродне, дзе б не ведалі Лідзію Фёдараўну Разгуляеву, Анну Андрэеўну Громаву. Яны працуюць у першай школе, абедзве паважаныя педагогі, абедзве заслужаныя настаўніцы БССР. А зусім нядаўна здаецца вучыліся ў Гродзенскім педінстытуце. Сорак выпускнікоў інстытута працуе ў вузах Гродна, у тым ліку 30 — у сваім інстытуце. Многія выпускнікі інстытута займаюць адказныя пасады на партыйнай, савецкай і грамадскай рабоце, многія сталі журналістамі.

Вельмі цікавым і рознабаковым жыццём жыве вялікі студэнцкі калектыў. Тут столькі турткоў самадзейнасці, столькі розных секцый, лабараторый, спартыўных калектываў. Усёй краіне вядомы імёны Алены Ваўчэцкай і Тамары Аляксеевай, майстроў спорта, неаднаразовых чэмпіёнаў СССР. Цяпер яны рыхтуюць новую спартыўную змену.

Студэнты разам з педагогамі вядуць плённую навуковую работу. Студэнцкае таварыства мае 31 турток, аб'ядноўвае каля паўтысячы чалавек. Цікавае жыццё моладзі ствярае сваёй актыўнай дзейнасцю камсамольская арганізацыя, у радах якой больш 1700 юнакоў і дзяўчат. Яны, камсамольцы, першыя ў вучобе, спорце, грамадскай рабоце, яны і арганізатары і запявалы добрых спраў на цалінных землях, на будаўніцтве гродзенскіх гігантаў хіміі — Азотнатукавага завода і «Капралактама».

Глыбокія веды, практычныя навыкі даюцца студэнтам не толькі недаспанымі начамі, упорным асабістым паядынкам з навукай, але і працай дружнага калектыву педагогаў. Калісьці, у пачатку работы інстытута, іх можна было пералічыць на пальцах. Цяпер жа 171 чалавек аддаюць моладзі свае веды і практычны вопыт педагагічнай дзейнасці. А яны не толькі рыхтуюць кадры, а і самі ўносяць уклад у навуку. Каля трыццаці чалавек ужо будучы ў інстытуце сталі кандыдатамі навук, або працуюць над дысертацыямі. Найбольшым аўтарытэтам і папулярнасцю сярод студэнтаў карыстаюцца доктар навук Б. Фіх, кандыдаты Г. Марціросаў, Т. Сцешковіч, В. Казлоў, Л. Лінеў і многія іншыя.

...Глядзіш, як выходзяць студэнты з інстытута або сваіх інтэрнатаў, радасныя, шчаслівыя, і па-добраму зайздросціш ім. У добры час жывуць яны, адменнымі спецыялістамі будуць. Вельмі ж заманчывыя ў іх дарогі ў будучае — шырокія, ясныя, перспектыўныя.

А. Колас




### ГІСТОРЫЯ

**PONAD LUDZKĄ MIARĘ.** Wspomnienia operowanych z Ravensbrück, Warszawa 1968, KiW, cena zł. 10,00.

Маладыя жанчыны з Польшчы ў Равенбрык, якія служылі гітлераўскім лекарам для доследаў. Людское сумленне тых лекараў маўчала. Ці людское? Дваццаць успамінаў тых, якія перажылі, без гарачкі расказвае аб гісторыях ў якія цяжка паверыць. Фрагмент аднаго з успамінаў: «Рана, даўжынёй ад ступені да калена, шырынёй вялікай далоні, была напоўнена смярдзючай шаразялёнай нафтай. А ў ёй плавалі нейкія доўгія, як бы шнурочкі, і роі малых, тоўстых, белых з чорнымі галоўкамі, чарвякоў».

Władysław Bartoszewski
**WARSZAWSKI PIERSCIEŃ ŚMIERCI 1939 — 1944**
Warszawa, 1967 Interpress, cena zł. 80,00

Кніжка, якая ў міг разышлася. Але ёсць у бібліятэках. Аўтар кажа: «Позняй восенню 1943 года, у час, калі штодзень на вуліцах Варшавы расстрэльваліся людзі, мы пачалі дакладна рэестраваць месцы і акалічнасці, у якіх яны гінулі, каб захаваць усё гэта для памяці. Запісвалі тэксты гітлераўскіх камюніке, збіралі ўрадавыя абвесткі». І такія матэрыялы склаліся на кніжку.

### ПАЛІТЫКА

**SZARA KSIĘGA.** Polityka ekspansji i neohitleryzm w Niemczech Zachodnich. Kulisy, cele, metody. Dokumentacja sporządzona przez naczelną Radę Frontu Jedności Narodu NRD. Tłum. z niem. N. Brodzka.
Warszawa 1968, Interpress, cena zł. 90,00

Бонскі ўрад вялікай кааліцыі. Паяўляецца новая сіла — фашыстоўская нацыянальная партыя (НПД). Ці новая палітыка Кізінгера? Толькі новыя словы. Кніжка ўсё гэта дакументуе.

## НА БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ

Праводзіцца зборка добраахвотных грашовых складчын на пабудову Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Жыхары горада Беластока ўплачваюць свае грашовыя ахвяраванні на будову музея пры пасрэдніцтве ГП БГКТ, а жыхары правінцыі могуць рабіць гэта пры пасрэдніцтве інструктараў БГКТ, актывістаў.

Нядаўна на будову Беларускага музея ўплацілі наступныя жыхары гор. Беластока: Юрка Геніюш — 20 зл, Мікалай Лобач — 20 зл, Сакрат Яновіч — 20 зл, Уладзімір Юзвюк — 20 зл, Уладзімір Гайдук — 4 зл, Мікалай Врублеўскі (з Варшавы) — 30 зл.

(ся)

# Гучыць забэйдава песня

### МІХАСЬ ЗАБЭЙДА Ў ПОЛЬСКІМ РАДЫЁ

Ужо традыцыйнымі сталі ў Польскім радыё перадачы беларускіх народных песень у выкананні слаўнага беларускага спевака Міхася Забэйды - Суміцкага. Вось і 11 чэрвеня г. г. у першай праграме агульнапольскага радыёвяшчання зноў мы пачулі знаёмы, родны голас. У праграме «Музыка нашых сяброў» у суправаджэнні вядомага лодзінскага аркестра мандаліністаў Э. Цюкшы спяваў беларускія народныя песні Міхась Забэйда.

(рл)

### МІХАСЬ ЗАБЭЙДА ПІША З ПРАГІ...

Я ўсё яшчэ спяваю. Папрасілі мяне нядаўна, каб даў я канцэрт ў цэнтры інфармацыі і культуры польскай у Празе. Канцэрт прайшоў паспяхова. Спяваў я песні Манюшкі, Наскоўскага, Невядомскага, Карловіча, Жэленскага, Шыманоўскага, Лефельда і народныя.

Выступаў таксама ў Саюзе чэхаславацка-савецкай дружбы. Спяваў беларускія, рускія і украінскія песні.

Хутка павінна выйсці мая новая грампласцінка з беларускімі песнямі і рамансамі. Памагаю ў яе падрыхтоўцы.

(вл)



На здымку: (злева) Карына Васькевіч, Ежы Мэндркевіч, Багуслаў Губіцкі, Барбара Камароўская.

**У ТЭАТРЫ АЛ. ВЯНГЕРКІ**

# Мама вярнулася

## (Powrót mamy)

Сімпатычную гэтую камедыю **Марыі Паўлікоўскай - Ясножэўскай** паставіў Беластоцкі тэатр. (Па-ціху кажучы, мабыць у гонар мамы, яе свята было нядаўна).

Галоўная гераіня — мудрая, цёплая, такая звычайная сабе — мама. Ролю яе іграе **Карына Васькевіч**, якую пасля даўжэйшай непрысутнасці на сцэне зноў аглядаем з прыемнасцю.

Сама камедыя (напісана ў 1935 годзе) ўводзіць нас у дом пэўнай сям'і, дзе падстарэлы тата — дырэктар закахаўся раптам у маладую сваю сакратаршу.

Акцыя жывая, дасканала дапрацавана рэжысёрска. Тут даволі назваць прозвішча вядомага ў тэатральным жыцці, і не толькі, рэжысёра: **Ірэна Ладасюўна.**

(вл)

 



Магіла невядомага дзіцяці.

# З гарцэрскай разведкі

Вясенняя гарцэрская разведка была ў гэтым годзе вельмі плённай. Аб некаторых яе выніках паінфармавана нашага прадстаўніка ў Камэндзе харугві ЗГП. Даныя адносна пажарнай бяспекі і даныя адносна адшукання месц народнай памяці знаходзяцца адпаведна: у саюзе пажарнікаў і Камітэтах даследвання гітлераўскіх злачынстваў. А вось інфармацыя.



Лапскія гарцэры складаюць прысягу ля помніка М. Навоткі.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

Гарцэры Беластоцкага павета правялі 104 кастры, на якіх прысутнічала 83 саратнікі і партыйныя дзеячы. Старэйшыя гарцэры арганізавалі 33 бівакі. Дзякуючы гарцэрам удалося адшукаць магілы памардаваных гітлераўцамі людзей у Папоўцы, а таксама магілу савецкіх воінаў паўшых за вызваленне Беластоцкай зямлі ў Бруходах. У час летняй разведкі гарцэры Беластоцкага павета выканалі чыны з нагоды з'ездаў ПАРП і ЗГП на 143 тысячы зл.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

5026 сакольскіх гарцэраў і зухаў сарганізавала больш 100 рознага тыпу мерапрыемстваў, у якіх удзельнічала 9.638 асоб (несарганізаваная моладзь і старэйшае насельніцтва). Гарцэры дакладна заняліся выкананнем супрацьпажарных заданняў. У 2967 будынках наведзена парадак і па меры магчымасці забяспечана перад пажарам.

Аж 62 сакольскія дружыны ЗГП правялі рэгістрацыю гітлераўскіх злачынстваў на сваёй тэрыторыі.

Вартасць выкананых чынаў сягае 66 950 зл.

### ЛАПЫ

У Лапах адбылося адно з большых мерапрыемстваў гарцэрскай разведкі — адкрыццё помніка невядомага дзіцяці. А вось кароценькая гісторыя.

Гарцэры з г. Беластока і лапскія гарцэры на тэрыторыі Лап вялі разведку адносна гітлераўскіх злачынстваў на тэрыторыі Лапскага павета. Ад старэйшых чыгуначнікаў даведаліся, што між чыгункамі амаль у г. Лапы ёсць магіла дзіцяці. Ніхто не ведае яго імя і адкуль яно. Адно толькі вядома — гэтае дзіця было выкінута з поезда, які вёз чарговы транспарт з Беласточчыны ў канцлагер Трэблінка.

Гарцэры Лап і г. Беластока на магіле невядомага дзіцяці паставілі мемуарную дошку. (ак)

# Рэалізацыя праграмы паслуг

Свайго часу Прэзідыум ВРН у Беластоку прыняў пастанову адносна актывізацыі малых гарадоў з прадугледжаннем паслуг для насельніцтва. Як выглядае рэалізацыя гэтай пастановы ў **Бельскім павеце,** прасочым на прыкладах.

У 1966 годзе закончана пабудову **прадпрыемства кардонных упаковак** для спулдзельні інвалідаў «Пшышласць» у Бельску. Гэта дазволіла даць працу для 47 асоб.

Шматгаліновая спулдзельня ў 1966 г. пабудавала **павільён для электра- і радыётэхнічных** паслуг. Зараз будуецца прадпрыемства метала-драўлянай прамысловасці, а таксама павільён для шаўцоў і краўцоў у Бельску. Гэтая ж спулдзельня пабудуе ў **Бельску** павільён для саматужніцтва.

У току рэалізацыі знаходзіцца **разбудова абутковага прадпрыемства ў Бранску,** якога інвестарам з'яўляецца Беластоцкая спулдзельня «Вспулпраца».

**ВЫШКІ** атрымалі ў 1966 г. слёсарска-кавальскае прадпрыемства і заканчваецца пабудова пякарні ў гэтай жа мясцовасці.

**У ОРЛІ** ў хуткім часе пабудуецца прадпрыемства метала-драўлянай прамысловасці.

**ВСС «Сполэм» у Бельску,** па-за праграмай, у 1967 пабудавала павільён для паслуг і «Практычнай пані», якога кошт сягае 390 тысяч зл.

Зроблена старанні і ўступныя працы пры пабудове прадпрыемства перапрацоўкі фруктаў і гародніны.

Агульна трэба сказаць, што рэалізацыя інвестыцыйных заданняў прадбачаных праграмай актывізацыі павета на 1966—1970 гады прабягае паспяхова. Калі ў 1965 годзе ў павеце было 525 прадпрыемстваў, а працавала тут 773 асобы, дык у канцы 1967 г. — 634 прадпрыемствы і 1007 асоб. (ак)

# Х ГОД „БЕЛАВЕЖЫ“

**Як мы ўжо паведамлялі, 9 чэрвеня г. г. літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» святкавала 10-годдзе сваёй дзейнасці. Сёння змяшчаем здымкі з юбілейнага сходу. На адным — урачыстае пасяджэнне (даклад чытае старшыня літаб'яднання Алесь Барскі), на другім — удзельнікі юбілейнай сустрэчы перад будынкам ГП БГКТ.**

Фота А. Карпюк






**М. ЯНКОЎСКІ**

**БЫЛЫ КАМАНДЗІР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ "У ІМЯ РАДЗІМЫ" БЕЛАСТОЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ**

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Пачынаўся дзень 2 лістапада.

Увайшлі ў пушчу. Наш праваднік ішоў на перадзе з разведкай атрада Багдана Хмяльніцкага. Яго палохаў грукат партызанскіх павозак, які рэхам разносіўся па лесе ва ўсе бакі. Раніца выдалася пахмурнай. Сонца не паказвалася. У лагчынах шэрай плёнкай слаўся туман. Пахла балотам. Праехаўшы кіламетраў дзесяць, ад узлесся звярнулі з дарогі ў густы квартал змешанага лесу і спыніліся на яго самым узвышаным месцы.

Ад Шэрашоўскага лесу я ішоў з дэсантнікам Валодзем, палякам па нацыянальнасці. Калі пачалася вайна, ён перажыў боль адступлення з Чырвонай Арміяй, граміў ворага на франтах Вялікай Айчыннай вайны. У маі месяцы 1943 года быў створан Саюз польскіх патрыётаў у СССР, была сфармавана польская дывізія імя Тадэуша Касцюшкі. Усе польскія патрыёты пайшлі ў гэтую дывізію, а Валодзя і іншыя яго сябры выбралі іншы шлях барацьбы. Яны сталі дэсантнікамі. Потым Валодзя з групай быў закінуты ў Брэсцкае партызанскае злучэнне, трапіў у нашу брыгаду і сумесна з намі ішоў на Беласточчыну. З ім было тры сябры: Міша, Рыгор і Вася. [1]

Атрады размясціліся на адпачынак, выставілі баявыя дазоры, выслалі разведку. Коней не распрагалі пакуль разведчыкі даложаць абставіны ў кварталах ва ўсе бакі ад нашага лагера. Праз некаторы час у суседнім ад нас квартале застракатаў аўтамат, грымнулі вінтовачныя выстралы. Пасыльны разведчыкаў атрада Багдана Хмяльніцкага далажыў, што яны сутыкнуліся з групай фашыстаў і адкрылі агонь па фрыцах. Тры гітлераўцы пазаліліся мёртвымі там жа на прасецы, а астатнія залеглі і пачалі адстрэльвацца.

Нашы атрады падрыхтаваліся к бою.

Кульбіцкі размясціў сваіх партызан уздоўж прасекі з паўднёвага боку ад нашага лагера, а Бакума — на прасецы з поўначы. Я застаўся з атрадам кутузаўцаў, а начальнік штаба брыгады, лейтэнант Уладзімір Трэгубаў — з багданаўцамі. Кундовіч і Чуркін перайшлі з прыданымі брыгадзе групамі, штабам і абозам на правы бераг невялікага ручайка на паўночна-ўсходнім баку.

Дазор багданаўцаў не вытрымаў націску атрада фашыстаў і адступіў. Гітлераўцы наблізіліся да атрада брыгады Хмяльніцкага. Пачалася актыўная перастрэлка. Другі атрад немцаў, відаць, хацеў пайсці ў абход багданаўцаў і ўдарыць па ім з тылу, але наткнуўся на ланцуг кутузаўцаў. Перастрэлка пачалася на абодвух флангах. З перарывамі бой цягнуўся да першай гадзіны дня. Атакі фашыстаў былі адбіты.

Мы выслалі разведку на стык дарог Ясень - Акольнікі, якая далажыла, што ўсе шляхі і прасекі на поўдзень, захад і поўнач заблакаваны гітлераўцамі. Немцы не разгадалі нашага плана абароны і ў дзве гадзіны дня зноў абрушылі асноўны ўдар на атрад Хмяльніцкага. Багданаўцы стрымлівалі націск фашыстаў, а Кульбіцкі павёў свой атрад у абход іх пазіцый. Здавалася, зыход бою ўжо складваўся ў нашу карысць, але ў палове трэцяй вораг ўдарыў па кутузаўцах з правага флангу. На дарозе Белавеж — Ясень трымацца больш не было магчымасці і кутузаўцы адыйшлі на правы бераг ручайка, бліжэй да штаба і абозу. Багданаўцы таксама адступілі са сваёй першай пазіцыі і занялі абарону на стыку прасек чатырох кварталаў на паўднёвым усходзе ад кутузаўцаў. Сувязь паміж атрадамі была страчана. (Бой пачаўся ў 837 квартале і праходзіў у квадраце кварталаў 837 — 835 — 785 — 787).

Да мяне падбег Валодзя і папрасіў дазволу пранікнуць да багданаўцаў. Я спадзяваўся, што сувязь зможам наладзіць праз конных разведчыкаў і загадаў яму вярнуцца ў штаб да сваёй групы. Немцы відаць зразумелі, што да цямна не змогуць дабіцца поспеху і бой пачаў заціхаць. Мы не ведалі глыбіні фронту ворага і атак з свайго боку не прадпрымалі, каб не трапіць ў лавушку. Наша разведка пранікла да шасейнай дарогі на Белавежу. Там стаяла каля трыццаці варожых аўтамашын, чуўся гоман гітлераўцаў. Відаць было, што гітлераўцы не ўвялі ў бой усе свае сілы і выязджаць, пакуль не збіраліся. Над месцам бою з'явіліся два нямецкія самалёты — разведчыкі. Яны зрабілі некалькі кругоў на даволі значнай вышыні і зніклі. Гітлераўцы прадпрынялі разведку боем, але былі абстраляны кутузаўцамі і адыйшлі на шашу да сваіх асноўных сіл. Па варожым транспарце і ходзе бою мы меркавалі, што немцы сцягнулі



 

# ЖУРНАЛІСТЫ З ГРОДНА



**У Заблудаве. Злева направа галоўны рэдактар «Гродзенскай Праўды» Андрэй Колас, галоўны рэдактар раённай газеты «Праца» (Зэльва) Міхась Кузняцоў, галоўны рэдактар гродзенскага радыё Аляксей Сінілаў, сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк.**

Беласточчына і Гродзеншчына — суседзі. Раздзяляе іх дзяржаўная граніца — граніца, праз якую ездзіцца ў госці, па вопыт, граніца дружбы і супрацоўніцтва.

Некаторыя ўстановы даволі часта абменьваюцца візітамі. Вось гэтак сама і журналісты.

Нядаўна, ад 4-га па 9-ае чэрвеня, на Гродзеншчыну выязджалі галоўны рэдактар «Нівы» Георгі Валкавыцкі, сакратар «Газеты Беластоцкай» Рышард Краська і журналіст радыё Лешак Кубіцкі.

А ад 10 па 14 чэрвеня прабывалі на Беласточчыне журналісты з Гродна. У склад дэлегацыі ўваходзілі галоўны рэдактар «Гродзенскай Праўды» — Андрэй Колас, галоўны рэдактар гродзенскага радыё Аляксей Сінілаў і галоўны рэдактар раённай газеты ў Зэльве Міхась Кузняцоў. Былі яны гасцьмі «Нівы», «Газеты Беластоцкай» і Беластоцкага радыё.

Згодна з дагаворам успомненых трох рэдакцый, дзень «Нівы» — дзень, у якім «Ніва» апекавалася гасцьмі, выпаў на 11 чэрвеня. Вось і аб гэтым мы хочам сказаць таксама, хаця ў скарачэнні.

Пасля снедання выехалі мы туды, дзе жыве беларускае насельніцтва, дзе шмат падпісчыкаў «Нівы», беларускіх школ і гурткоў беларускага таварыства.

Затрымаліся пачаткова ў Заблудаве — мястэчку, дзе рускі першадрукар Іван Фёдараў і яго спадвіжнік беларус Пётр Мсціславец у 1566 годзе заснавалі друкарню.

Недалёка за Заблудавам знаходзіцца вёска Козлікі — радзіма нядаўна памёршага маршала Савецкага Саюза Васіля Сакалоўскага. Пабывалі мы тут у хаце яго дваюраднага брата, таксама Васіля Сакалоўскага, які расказаў аб пабыўцы тут свайго брата — маршала ў 1965 годзе. Васіль Сакалоўскі паказаў хату, у якой будучы маршал жыў да 16 год свайго жыцця і тут са сваімі бацькамі саматужна рабіў цэглу і будаваў хату.

Пасля заехалі мы ў беларускі ліцэй у Бельску Падляшскім, дзе дырэктар Мікола Гайдук з настаўнікамі і старшынёй бацькоўскага камітэта Іванам Федаровічам расказалі аб школе і арганізавалі прыём. На развітанне Лідзія і Мікола Гайдукі ўручылі гасцям з Гродна толькі што выйшаўшую кніжку, якой яны з'яўляюцца аўтарамі. Гэта падручнік (чытанка) «Беларускае слова» для V класа.

У Гайнаўцы прыняў журналістаў першы сакратар ПК ПАРП Міхал Мядзведзь. З КП направіліся мы на Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці. Інжынер Аляксей Зін паказаў аграмаднае прадпрыемства дзяржаўнага значэння і вельмі цікава аб ім расказаў.



**Козлікі — радзіма маршала СССР В. Сакалоўскага. Пасярэдзіне дваюрадны брат былога маршала Васіль Сакалоўскі з сынам.**

Будучы ў Гайнаўцы, нельга не наведаць Белавежы. Тут пабывалі мы ў прыродазнаўчым музеі, у беларускім этнаграфічным музеі БГКТ і ў запаведніку зуброў.

З Белавежы зноў вярнуліся ў Гайнаўку і тут старшыня ПЗГС Кастусь Майсеня, ён жа і член прэзідыума ГП БГКТ, паказаў нам аграмадныя склады сваёй установы і вясковыя крамы ў Збучы і Новым Беразове. У Новым Беразове гродзенскія журналісты наведалі Якуба Мартынюка — матроса «Аўроры» і ўручылі яму кветкі.

Тут у клубе селяніна адбылася сустрэча з мясцовым насельніцтвам. Анатоль Швед — кіраўнік васьмікласнай пачатковай школы, старшыня грамадскай рады нарадовай Лявон Карнілюк, мясцовы аграном Іван Каўнер і многія іншыя мясцовыя жыхары расказвалі аб сваіх вясковых справах і дасягненнях. Аб жыцці людзей Гродзеншчыны расказаў Андрэй Колас.

Пасля мясцовая моладзь уручыла братам з Гродна кветкі і запрашала часцей прыязджаць да іх.

*

Нашыя сябры па пяру пабывалі яшчэ ў Аўгустове і Варшаве. У Беластоку прымаў іх таксама сакратар прапаганды КВ ПАРП Вітальд Мікульскі.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара



**Гродзенскія журналісты ў ліцэі ў Бельску Падляшскім. Памятны здымак на фоне школы.**

сюды даволі значныя сілы, прыкладна, да 600—650 чалавек.

Пачало цямнець, а вестак аб сабе багданаўцы не падавалі. Наша разведка таксама не знайшла іх. Бакума не меў карты і адвёў свой атрад у другім напрамку. Але ў нас была дамоўленасць, у выпадку няўдачы збірацца ў Ружанскай пушчы, у раёне Парахаўні, адтуль мы выйшлі пасля пашыранага пасяджэння Лапскага міжрайкома партыі.

Сабралі нараду камандзіраў. Валодзя папрасіў дазволу рухацца на захад самастойна са сваёй групай. У Бельскім раёне ў яго былі знаёмыя людзі, праз якіх ён спадзяваўся наладзіць сувязі з антыфашысцкімі камітэтамі. Усе згадзіліся з яго довадамі, што чатыры чалавекі змогуць прайсці праз пушчу і дасягнуць нашага раёна дзеяння. Развіталіся з ім і яго сябрамі, пажадалі ім шчаслівай дарогі. Мы вырашылі дабрацца назад, каб сабраць усе сілы брыгады. Пасля гэтага бою ў нас было два раненых.

Па шляху назад у Ружанскую пушчу, у невялікім ляску непадалёку ад вытокаў р. Нараў нас дагнаў атрад багданаўцаў. Да Парахаўні заставалася каля дваццаці кіламетраў. Вечарам, на невялікім мосціку праз Нараў з узлесся Свіслацкай дачы нашу разведку абстраляла варожая засада.

Справа і злева ад дарогі прасціраліся багны Белага балота і нам не было іншага выхаду, як ісці на штурм. Мы залеглі і адкрылі агонь з усіх відаў зброі. Разведчыкі кутузаўцаў, пад камандай начальніка штаба атрада Валажынскага з крыкамі «Ура!» папаўзлі да маста. Праз балота пайшлі ў атаку багданаўцы. Нервы гітлераўцаў не вытрымалі. Яны паспешна адступілі цягнучы за сабой двух забітых і трох раненых.

Я адчуў, што ў мяне задзета куляй левая шчака і прастрэлены пальцы правай рукі. Кроў цякла за каўнер. Рука выйшла са строю. Але ў гэты час страляніна заціхла. Бой закончыўся нашай перамогай.

Апрача мяне былі лёгка ранены яшчэ два партызаны. Толькі вопыт партызанскай барацьбы выратаваў нас ад вялікіх страт у час гэтага паходу. Мы асвяцілі ракетамі месца варожай засады. Там нікога не было. Шлях на Новы Двор быў адкрыты. Раніцай мы зноў вярнуліся ў Парахаўню.

Першы паход у Белавежскую пушчу паказаў нам, што тактыку баявых дзеянняў партызан Капыльшчыны, дзе яшчэ ў 1942 годзе была створана вялікая партызанская зона, пакуль рана пераносіць на Беласточчыну. Мы зразумелі, што тут неабходны іншыя метады і тактыка баявых дзеянняў.

**Працяг будзе**

[1]) Валодзя, Міша, Рыгор і Вася — клічкі дэсантнікаў спецыяльнай групы маёра Хмелеўцава.

# ВЕЧАР ЗЛАЧЫНЦАЎ

Белавежа. Цудоўны чэрвеньскі вечар. Недзе сярод дрэў спяваюць салаўі, у возеры кумкаюць жабы...

А ў рэстаране «Турыстычная» за ссунутымі разам двума столікамі — вясёлая, гаманлівая, бестурботная кампанія. Разам 10 чалавек. Дзяўчаты і хлопцы. Свае — белавежскія, гайнаўскія, бельскія. Галубыя птушкі, якія нідзе не працуюць, а неяк жывуць і гуляюць. Часам гавораць пра сябе, што яны нарадзіліся ў святочны дзень і таму не выпадае ім працаваць.

Сярод іх: Жэня М. — жанчына, якой 28 год, без прафесіі, з сямікласнай адукацыяй, два разы пабывала ўжо ў турме. Калі міліцэйскі следавацель пытаў яе: чаму яна займаецца злачынствам, Жэня гаварыла: «Бо нідзе не працую». «А як жывеш?» — дапытваўся следавацель. «Як? — гаварыла яна. — А што, мала на свеце дурных мужчын, якія накормяць ды яшчэ грошы даюць». «Значыць, распустай займаецеся?» — нерваваўся следавацель. Жэня М., якую «свае» называюць проста «Элькай», пасля кароткага маўчання заявіла: «Бо я разышлася з мужам і маю слабую волю».

Быў час, што яна працавала. Найперш была яна няняй у Варшаве. Аднак уцякла адтуль, абакраўшы сваіх гаспадароў. Пасля ўладзілі яе ў прадпрыемства. Зарабляла 1500 зл. І гэта ёй не спадабалася. Кінула. Не працуючы магла «зарабіць» больш.

Рышард Г. — 32 гады, халасцяк, бацька двух дзяцей, узростам у 6—4 гады, з чатырохкласнай адукацыяй, у турме прасядзеў разам 13 год. Перыяд між адным і другім прыгаворам з'яўляецца для яго проста перадышкай. Калі пасля тыдня ад выхаду з турмы пракурор запытаў яго: чаму ён не працуе і не шукае сабе працы, Г. адказаў: «Хачу крыху яшчэ адпачыць». Прайшло яшчэ два тыдні і на падобнае пытанне пракурора ён зноў адказаў: «Я яшчэ не паспеў адпачыць». «А хто вас утрымоўвае?» — пацікавіўся пракурор. «Мая мама і мая каханка», — сказаў ён. «То ж яны таксама не працуюць!» — усклікнуў пракурор, пачуўшы прозвішчы дорба сабе вядомых асоб. «Але грошай, пане пракурор, кожны месяц маюць яны хіба больш ад пана», — сцвердзіў Г. «Адкуль, з якіх крыніц?» — дапытваўся пракурор. Г. ўсміхнуўся. «Што, пан пракурор не ведае? Мужчыны ім плоцяць». «І вы з такімі задаецеся?» — здзіўляецца пракурор. «А якая парадачная жанчына захоча задавацца са мною?» — спакойна адказвае Г.

І яшчэ адзін: Эдвард В. — халасцяк, якому 19 год, без прафесіі, з сямікласнай адкукацый. Гаворыць, што ўтрымоўваюць яго бацькі, але зараз знаходзіцца «на дзяржаўным харчаванні». За ім ужо 3 судовыя прыгаворы.

Прозвішчы удзельнікаў вясёлай кампаніі з рэстарана «Турыстычная» ў Белавежы дазвольце не называць — проста таму, што шкада на іх месца.

Усё пачалося ў Гайнаўцы. Быў буднішні дзень — серада. Тэрэса К., якая пра сябе гаворыць, што з'яўляецца беспрацоўным рахункаводам, расказвае следавацелю:

«Гэтага дня, прачнулася я недзе каля 10 гадзіны раніцы і зараз пайшла да Басі П. Там былі ўжо Анка з Варшавы і Жэня М. — «Элька». Распілі мы чвэртку і пайшлі на станцыю. Сустрэлі там мужчынскую кампанію і хацелі неяк загуляць, бо вельмі нудна было і сонца пякло бязлітасна».

Тады нехта з хлопцаў падаў думку.

— Давайце падскочым у Белавеж.

Усе ахвотна згадзіліся. Білетаў, вядома, не куплялі.

«А навошта? — згодна ўстанавілі. — Хай нейкая дрань спрабуе нас зачапіць!»

Калі ўжо расселіся за столікамі «Турыстычнай», Г. загадаў:

— «Элька», давай сотку на піва!

«Элька» не пратэставала і іншыя таксама дакінулі па некалькі злотых і Г. прывалок з буфета дзве скрынкі «чыстага з пенкай». Так распачалася гэтая «безалкагольная» забава. Пасля ў час следства, калі міліцэйскі следавацель запытаў «Эльку», адкуль яна ўзяла гэтыя 100 злотых, яна адказала коратка: «Ад каханка, пане следчы, ён быў бедны і больш не даў».

У 10 гадзін вечара рэстаран закрылі. Тады вясёлая кампанія перабазіравалася на прырэстараннную тэрасу. Гарманіст Рысек з Бельска расцягнуў сваю гармошку і распачаліся танцы. Самыя сучасныя, эмацыянальныя. Каля поўначы, пакінуўшы рэстаран, з песнямі на вуснах пайшлі ўсе разам карагодам па вуліцах Белавежы.

Тады «Элька» ўспомніла пра аднаго свайго знаёмага — Кольку П. Звярнулася да сваёй сяброўкі Тэрэскі: «Ведаеш, хадзі пойдзем да яго. Пап'ем парадачна. Ён прасіў, каб я прыводзіла яму дзяўчынкі». Мікалая П. не было аднак дома. Аб тым «Элька» паінфармавала сваіх сяброў. «У хаце няма нікога. Можна было б яго «абрабіць». Сябрам два разы паўтараць не трэба было. Праз акно ўлезлі ў памяшканне і, ачысціўшы яго з вопраткі і іншых рэчаў, пайшлі напрамкі на станцыю Белавежа — Таварная. Было ім весела. Па дарозе прыйшлося перабрацца праз рэчку Нараўку. Не хацелася ім замачыць вопраткі, дык рашылі пакупацца. Распрануліся да апошняй ніткі — салідарна дзяўчаты і хлопцы. Высока на небе свяціў месяц, а яны вясёлыя, што пагулялі і што ўдачна абакралі чалавека, ныралі ў ваду, мылі сваё бруднае сумленне.

«Салодкае жыццё» галубых птушак хутка прыпыніла міліцыя, а суд у Бельску астаткова закончыў вясёлы вечар злачынцаў.

**М. Нурэцкі**

# ТРЫБУНА чытачоў

### З ІНІЦЫЯТЫВЫ ГРН

2-га чэрвеня каля 300 чалавек грамадска працавала пры рамонце дарогі Грабавец — Тапаркі (Гайнаўскі павет). Жыхары вёсак Дубічы Царкоўныя, Тапаркі, Грабавец і Тафілаўцы пастанавілі мець тут добрую дарогу. У гэтым дарожным грамадскім чыне бралі ўдзел таксама члены БГКТ з Дубіч Царкоўных на чале з Валяй Хіліманюк і Марысяй Белявец. Работай кіраваў Іван Майстровіч. У тэты дзень было выкапана паабапал дарогі больш як 500 метраў равоў. Ініцыятарам грамадскага чыну быў прэзідыум ГРН у Дубічах Царкоўных, які ўзначальваецца Мікалаем Чыквінам.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

### ГРАМАДСКІЯ КУРАТАРЫ

Нядаўна на сесіі ГРН у Фальварках Тыльвіцкіх абмяркоўваўся план кантрактацыі на 1969 і 1970 гады.

На гэтай жа сесіі, між іншым, былі выбраны грамадскія куратары павятовага суда ў Беластоку.

**Мікола Краўчук**
Патока

### ХОДНІКІ Ў ВЁСЦЫ

Вёска Новае Беразова (Гайнаўскага павета) сама па сабе даволі прыгожая. Шмат тут зелені, прыгожыя дамы, парадак на панадворках. Цяпер укладваюць сяляне па баках маставой ходнікі, якія надаюць вёсцы выгляд мястэчка (мх)

### СКЛАДЫ — МАГАЗІНЫ

За апошнія гады разбудаваліся магазіны ПЗГС у Гайнаўцы. У аграмадных будынках з белай цэглы знаходзяцца розныя тавары, а найбольш прылад і машын да апрацоўкі зямлі. Такіх добрых магазінаў - складаў не мае ніводзін ПЗГС у нашым ваяводстве. (МС)

### ПЯКАРНІ

Нядаўна пабудаваныя пякарні хлеба ў Кляшчэлях і Нарве прадукуюць вельмі смачны хлеб. Па якасці сваёй хлеб з гэтых пякарняў перавышае прадукцыю пякарняў у Беластоку.

(СХ)

### КРУТЫЯ ПАВАРОТЫ

Шаша, якая спалучае Заблудаў з Бельскам Падляшскім, мела даволі крутыя павароты. Ад нядаўна іх няма. Дарожныя аддзелы ліквідавалі іх, бо яны заўсёды пагражалі няшчаснымі выпадкамі. Зараз не едзецца таксама праз вёску Ляшкі, у якой таксама быў востры паварот. Шаша зроблена цяпер за вёскаю.

Гэтак сама вядуцца работы на шашы Беласток — Супрасль, дзе ў хуткім часе будуць ліквідаваны крутыя павароты. (XX)

---

тросы абменьваюцца позіркамі: смелы чалавек гэты лейтэнант!

Калі Бархольм усміхаючыся з'яўляецца ля выйсця з пячоры, яго сустракаюць пахвальным гулам.

— Адпачывайце, хлопцы, — гаворыць лейтэнант. — Улазце сюды, у цень. А я ўзбяруся яшчэ на некалькі ярдаў.

Рухам падбародка ён паказвае на голую вяршыню скалы.

Разамлеўшыя ад гарачыні маракі не прымушаюць сябе ўгаварваць. Сем дэсантнікаў знікае ў пячоры. Восьмы — малады матрос, адзін з тых, каго ўзяла смеласць лейтэнанта, — лезе за ім наверх.

Бархольм на вяршыні скалы.

Шоргат за яго спіною. Ён адварочваецца, бачыць матроса, які карабкаецца па каменнях.

Матрос збянтэжана ўсміхаецца:

— Я падумаў: не выпадае пакідаць камандзіра... Выбачайце, сэр!

Бархольм памагае яму вылезці на пляцоўку, па-сяброўску ляпае яго па плячах.

Яны доўга стаяць побач, захапляючыся акіянам.

Ззаду маракоў, у цэнтры скальнай пляцоўкі, тырчаць корчыкі вераску. Паміж карчамі — шчыліна, дакладней, калодзеж, памерам вядзерца. З гэтага калодзежа і высоўвае Вальтэр свой перыскоп.

Але да карчоў Бархольм нават не падыйшоў.

Працяг будзе

### НА ЎРОКУ МУЗЫКІ

У ліцэальныя школы ў Бельску Падляшскім на ўрокі музыкі даволі часта прыязджаюць артысты камеральнай эстрады нарадовай філармоніі з Варшавы. Вучні заўсёды задаволены з іх музычных выступленняў, якія з'яўляюцца вялікай дапамогай у навуцы, а таксама з'яўляюцца культурнай разрыўкай.

**Павал Зіневіч**
Бельск Падляшскі



**Выступае Юльюш Петраховіч**
фота аўтара

### ФУТБОЛЬНАЯ КАМАНДА

Моладзь Трасцянкі, а перш за ўсё хлопцы, любяць спорт, любяць гуляць у мяч. Утварылася там апошнім часам футбольная каманда пад кіраўніцтвам маладога настаўніка Сцяпана Нікіцюка. Вольны час у святочныя дні маладыя людзі з гэтай вёскі прысвячаюць спорту.

**Цял. Я.**
Трасцянка




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Мая сяброўка Ніна выходзіць у наступную нядзелю замуж. Прасіла мяне быць у яе старшай друхнай. І я згадзілася. Але цяпер не ведаю, ці ехаць, ці не. А вось што здарылася. Ніна аднойчы прыйшла да мяне і расказала, што пасварылася са сваім родным братам з-за мяне. Брат Ніны працуе ў гарадку з будучым мужам Ніны. Калі ён даведаўся, што я буду друхнай, пастанавіў пазнаёміць мяне на вяселлі са сваім сябрам, які таксама працуе ў горадзе, мае сярэднюю адукацыю, добрую прафесію. Калі аб гэтым сказаў ён Ніне, яна пачала крычаць на яго і сказала, што не возьме мяне за друхну, каб ён не пазнаёміў мяне з добрым хлопцам. «Я то на вёсцы буду працаваць, а яна будзе паняй у горадзе», — сказала Ніна. Калі б яна мне аб гэтым не сказала, я б нічога і не ведала. Я нічога ёй на гэта не адказала, але мне было няёмка. Цяпер не ведаю, ці ехаць друхнай, ці не? Парай Сэрцайка, што рабіць.

**Аня** з Бельшчыны

**Дарагая Аню!** Напэўна трэба ехаць. Ніна, калі б думала аб гэтым усур'ёз, напэўна б не сказала аб гэтым табе. А тое, што ёй стала зайздрасна, гэта хіба можна палічыць праўдай. Але не павінна ты гневацца за гэта на Ніну. Гэта было проста нетактоўна з яе боку. Зайздрасць бывае ўсялякая. Часамі бывае яна вельмі адмоўнай рысай характару чалавека, часам не. Напэўна і табе, Аню, не раз прыйшлося каму-небудзь чагосьці пазайздросціць. Таму не гневайся і едзь да яе ў вяселле.

Жадаю прыемнай забавы.

**Сэрцайка**

### КРЫВЯЦКІЯ СПРАВЫ

Аб святліцы, што ў Крывяцічах, можна многа пачуць ва ўсёй ваколіцы. Святліца вялікая, прыгожая, аднак слаба «загаспадараваная». Арганізуюцца тут амаль кожную суботу і нядзелю патанцоўкі. Таму часта можна ўбачыць маладых хлопцаў і дзяўчат з іншых вёсак. Я, аднак, хачу закрануць важную справу, а менавіта: чым павінна быць, якую ролю павінна адыгрываць святліца ў сучаснай вёсцы. Яна павінна быць месцам, дзе грамадзяне культурна праводзяць вольны час. У Крывяцічах аднак (як мне здаецца) усё дзеецца наадварот. У святліцы ёсць клуб «Рух». Можна ў ім выпіць каву, знайсці штосьці да чытання. Аднак ёсць і другі бок медалі. У памяшканні, у якім знаходзіцца клуб, няма электрычнага святла. Валя Журавель, якая там працуе, мусіць да дзесяці гадзін вечара пры свечцы абслугоўваць кліентаў. У гэтым жа клубе няма такіх газет, як «Пшыяцюлка», «Праўда», «Ізвесція», «Наша весь», якія вельмі ахвотна куплялі б жыхары нашай вёскі. У святліцы няма тэлевізара. Сельскагаспадарчы гурток прызначыў ужо каля 6-ці тысяч зл на тэлевізар, аднак Аддзел асветы ў Бельску Падляшскім не спяшаецца з пакупкай так патрэбнай рэчы ў нашу святліцу. Ёсць і памяшканне на бібліятэку, аднак кніжак няма, як тэта кажуць нават «на лякарства». Чаму ж ГРН у Орлі, пад якую падлягае арлянская бібліятэка, не хоча стварыць бібліятэчнага пункта ў новай святліцы?

Некалькі слоў варта напісаць аб адной нядзелі, якую я правёў у клубе. Найбольш людзей сабралася пасля 19-ай гадзіны вечара. Прыйшлі пагутарыць, пайграць у шашкі, карты і тп. Знайшліся нават такія, што замест кавы пілі са шклянкі 45-працэнтавую «чыстую». Дзеці, якія прыходзілі ў святліцу захоўваліся вельмі дрэнна, на што бацькі зусім не звярталі ўвагі. Каля гадзіны дзевятай вечара моладзь сарганізавала патанцоўку. Старэйшыя таксама сарганізавалі, але нешта іншае. Расселіся яны пад сценамі і далей вялі спрэчкі, ігры ў карты і тп.

Па старой звычцы каля вокан святліцы сабралася многа жанчын (замужніх), якія вельмі голасна абгаворвалі моладзь. Вялі яны звычайныя, бабскія плёткі. Не буду далей усяго апісваць, аднак ад імя крывяцкай моладзі буду прасіць, каб вясковыя пляткаркі перасталі збірацца пад вокнамі ў святліцы.

Варта яшчэ звярнуць увагу на тое, што апошнім часам заняпала дзейнасць такіх арганізацый як БГКТ, СВМ і ЛьЗС. Як відаць — няма добрага грунту, няма і вынікаў. Зусім не займаецца вясковымі справамі партыйная арганізацыя. Да яе належаць людзі паважаныя ў асяроддзі, аднак яны абыякава глядзяць на тое, што ў Крывяцічах «культуру» трэба шукаць са свечкай у руцэ (а гэта свечка дагарае ў клубе «Рух» — што будзе калі яна дагарыць?).

*

Калі я збіраўся на цягнік ехаць у Беласток, раптам прыбегла суседка, якая прашаптала маёй маме на вуха — «суседачка, давайце зложымся па пару залатовак і купім шыбу ў святліцу, якой брак у акне» і... яшчэ адно — «ваш Ваня падараваў учора на забаве Яфрэмаву Зойку».

**Ваня Кірыдзюк**
Крывяцічы

### ФЕСТ У СВІНАРОЯХ к/НАРАЎКІ



**На патанцоўцы.**

2 чэрвеня адзначалася ў нас свята селяніна. З гэтай нагоды ў Гайнаўскім павеце адбыўся павятовы фест у Свінароях, што непадалёку ад Нараўкі. Урачыстасць адкрыў надляснічы Надлясніцтва Броўск — Мечыслаў Гайдук. З дакладам выступіў прэзас ПК ЗСЛь — Аляксандр Ражкевіч.

Пасля афіцыйнай часткі выступалі мастацкія гурткі з ЗДК «Гурнік», беларуская эстрада БГКТ з Гайнаўкі і гурток з Ляшукоў. Усіх зацікавілі таксама спаборніцтвы пажарных каманд, кніжны кірмаш, а таксама спартыўныя ігры каманд з Гайнаўкі, Трасцянкі і Нарвы.

Потым усе гулялі пад гукі аркестра да позніх гадзін вечара пад векавымі пушчанскімі дубамі.

Тэкст і фота Янка Цялушэцкі
Новае Ляўкова

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Tarahumara" (meksykański), 2—3. „Mój przyjaciel delfin" (USA), 4—5. „Kapo" (włoski), 6—7.

**Нараўка**

„Chewzburska ballada" (radz.), „Trema" (USA), 3—7.

**Нарва**

„Kryptonim Nektar" (polski), „Mętna woda" (węgierski), 3—7.

**Чыжы**

„Marysia i Napoleon" (polski), 3—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Dr Fabryzus działa" (NRD), „Po wielkiej burzy" (szwajcarski), 3—7.

**Орля**

„Westerplatte" (polski), „Tygrys lubi świeże mięso" (franc.), 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Mój przyjaciel Delfin" (USA), „Poznańskie słowiki" (polski), 2—5.

**Міхалова**

„Aleksander Newski" (radz.), 2—3. „Wycieczka w nieznane" (polski), 4—5. „Największe widowisko świata" (USA), 6—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Siódmy przysięgły" (franc.), „10 małych Indian" (angl.), 3—7.

**Новы Двор**

„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radziecki), 6—7.

**Ліпск**

„Kopciuszek w potrzasku" (francuski), „Po wielkiej burzy" (szwajcarski), 3—7.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6957

